№ 1. Нядзеля 27 Лістапада 1927 г. м. Вільня. Год I.

# БЕЛАРУСКІ РАДНЫ

Пярыядычная часопіс па самаўрадавым справам нашага краю.

| РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ: | ПАДПІСНАЯ ЦАНА: | АБВЕСТКІ ПА УМОВЕ. |
|---|---|---|
| WILNO, | За 3 месяцы . . . . . 2 зл. | |
| Zawalna 6 — 4. | 1 нумар . . . . . . . 50 гр. | |


## Ад Рэдакцыі.

У выніку сусьветнай вайны пасьля мнагавекавога нацыянальнага, культурнага і грамадзкага заняпаду Беларускі Народ пачаў адраджацца. І трэба прызнаць, што працэс адраджэньня ідзе шпаркімі крокамі!

У сваім няўстрыманым бегу працэс гэты абхапляе паступова ўсе галіны жыцьця Беларускага Народу. Побач з пасьпехамі ў палітычнай вобласьці Беларускі Народ робіць вялікія пасьпехі ў вобласьці культурнай. Беларуская культура расьце, шырыцца, вырываецца паза рамкі сваей нацыі. Творы Беларускіх паэтаў тлумачацца на іншыя мовы, а народныя нэтры Беларускай зямлі родзяць усё новых і новых сваіх паэтаў і песьняроў!

Побач з гэтым Беларускі Народ выявіў сваю дасьпеласьць яшчэ і ў вобласьці грамадзкай.

Здавалася-б, што Народ, маючы малую лічэбна і маладую інтэлігэнцыю, Народ, які прызвычаіўся толькі *слухацца і падпарадкавацца* сваім мацнейшым суседзям, ужо затраціў на заўсёды сваю самадзейнасьць, сваю волю да чыну, здольнасьць браць актыўны ўдзел у грамадзкім жыцьці краю. Але і ў гэтай галіне — да нашага нацыянальнага гонару — Беларускі Народ аказаўся гэтак-жа здольным, як і ў іншых галінах свайго нацыянальнага жыцьця.

Тры месяцы таму назад Бел. Народ атрымаў магчымасьць выявіць сваю грамадзкую дасьпеласьць.

Урад Маршалка Пілсудзкага, рашыўшы паканчыць з папярэднім бязпраўным станам самаўрадавага жыцьця, абапёртага на самаволі *войтаў па назначэньню* і поўнай атсутнасьцю самадзейнасьці грамадзянства, — загадаў новыя выбары. І яшчэ нядаўна разгарачаны, а часта нават варожа настроены Бел. Народ адказаў на гэты шчыры і рашучы крок актыўным чынам, паслаўшы ў новыя самаўрады свах лепшых людзей!...

6 і 7 лістапада адбыўся ў Вільні, гэтай калысцы Беларускага адраджэньня, „1-шы Зьезд Радных Беларусоў“. Народ праз сваіх прадстаўнікоў задакумэнтаваў сваю шчырасьць і ўдзячнасьць да правадыра Польскага Народу Маршалка Пілсудзкага. Адначасна зьезд гэты выказаў поўную дасьпеласьць беларускіх радных да грамадзкае працы на самаўрадавым грунце. Адкінуўшы ў бок палітыку і дэмагогію, Зьезд беларускіх Радных цьвёрда і рашуча выставіў цэлы рад сваіх дамаганьняў і пастулятаў.

Апрача таго зьезд вынес пастанову патрэбы істнаваньня спэцыяльнай арганізацыі, якая была-бы кіруючым і зьвязваючым цэнтрам дзейнасьці і жыцьця беларускіх радных.

А на адбыўшайся пасьля зьезду конфэрэнцыі быў рэарганізаваны нядаўна паўстаўшы „Камітэт ца справам Самаўрадаў“.

Гэткім чынам на падставе санкцыі „Першага Зьезду Беларускіх Радных“ Беларускі Камітэт па справам Самаўрадаў пачынае шырокую працу на грунце самаўрадаў.

Для папулярызаваньня нашай думкі мы пачынаем выдавецтва журналу *„Беларускі Радны“*. Мэта нашая простая, шлях ясны: прадбуджэньне ініцыятывы і дзейнасьці беларускіх радных; творчая і рэальная праца ў галінах гаспадарчай, культурнай і грамадзкай; імкненьне да згоды, паразуменьня і супольнай працы на грунце самаўрадавым беларускаца і польскага грамадзянства, як роўнага з роўным для агульнага дабра Краю і Дзяржавы...

Дык у добры час да рэальнай працы на карысьць свайму Народу!

## Прэзыдыум Беларускага Камітэту па справам Самаўрадаў.

Пасьля першага Зьезду Гмінных Радных адбылася конфэрэнцыя Камітэту па справам Самаўрадаў з удзелам дэлегатаў зьезду. На конфэрэнцыі быў накрэсьляны плян працы і выбраны сталы прэзыдыум Камітэту па справам Самаўрадаў у наступным складзе.

1. Я. Ярош — сябра Нясьвіскага Соймікў — Старшыня.
2. С. Гурын — Радны Юрацішскай гм. Валожынскага пав. — Заст. Старшыні.
3. У. Семашкевіч — Сябра Сойміку Вялейскага — Заст. Старшыні.
4. Г. Канапацкі ад Цэнтру — Сэкрэтар.
5. С. Добраловіч — Радны Трабскай гм. Валож. пав. — другі сэкрэтар.
6. А. Субач — Войт Вялейскай гм.
7. Дз. Мароз — Сябра Сойміку Маладэчанскага.
8. Ілінец—Заст. Войта Дзятлоўскай гм. Навагр. павету.
9. Язэп Шэйба — Сябра Сойміку Слонімскага.
10. Ус.Сончык — Сябра Сойміку Слонімскага.
11. С. Худы — Радны Ланьскай гм. Нясьвіскага пав.
12. А. Мікірэй—Заст. войта Клецкай гм.
13. Я. Башаркевіч — радны Валож. гм.
14. А. Кійко—радны Говезьнянскай гм. Нясьвіскага п.
15. Пілецкі — радны Сіняўскай гм. Нясьвіскага п.

Апрача гэтых чатырнаццаць прадстаўнікоў Самаўрадаў аднагалосна засталіся выбранымі у склад Камітэту ад Цэнтру — Г. Канапацкі — сэкрэтаром і сябрамі: А. Паўлюкевіч — ад Бел. Нац. Рады, Друцкі-Падбярэзкі — ад Цэнтр. Выб. К-ту і Т. Вярнікоўскі — ад „Прасьветы".

## Кароткі агляд Першага Зьезду Радных Беларусаў у Вільні.

У нядзелю 6 лістапада а 12 гадзіне адкрыўся зьезд гмінных Радных і Войтаў Віленскага і Наваградзкага ваяводзтваў, скліпраўам голасу і 16 як госьці. Сярод гасьцей былі прысутнымі: Прэзыдэнт м. Вільні п. Фалейўскі, прадстаўнік ад Віленскага



Група сябраў Першага Зьезду Гмінных Радных Беларусаў,

каны па ініцыятыве Беларускага Нацыянальнага Камітэту па справам Самаўрадаў. Прыбыла на зьезд 103 дэлегаты, з якіх 87 з Ваяводзтва п. Некраш, урад віленскага аддзела Партыі Працы ў складзе старшыні д-ра Бракоўскага і п. Сьвідэрскага, вядомы

прыймаючы пад увагу толькі самыя неабходныя рэчы.

На кошт соймікаў у канцы 1927 г. былі арганізаваныя 8-дзённыя пажарныя курсы, якія скончыла 375 асобаў з наступных паветаў: Віленска-Троцкага — 122 асобы, Сьвянцянскага—72, Дзісьненскага—23, Вялейскага і Маладэчанскага — 17, Браслаўскага — 51, Ашмянскага — 27 і Пастаўскага—37. У 1929 годзе Віленскі саюз мае на мэце яшчэ арганізаваць 8-дзённыя курсы для тэорэтычнае і практычнае падгатоўкі пажарных.

Для пасьпешнага разьвіцьця пажарніцтва мала яшчэ аднае сьведамасьці патрэбы яго і маральнага падтрыманьня з боку грамадзянства. Патрэбны яшчэ значныя матэр'яльныя сродкі, якіх трудна чакаць ад дзяржавы. У нас пажарныя стражы утрымліваюцца, як ведама, на сродкі П. З. У. В. (Польскі Саюз Узаемнага Страхаваньня) і Самаўрадаў. Некаторыя выражаюць пагляд, што пажарніцтва павінна цалком утрымлівацца на сродкі П.З.У.В. Але гэты пагляд неправідловы, дзеля таго, што страхоўцы не падлягае жывы і рухомы інвэнтар, які гэтак сама як і нярухомасьці, падае ахвяраю пажараў. Дзеля гэтага цяжар выдаткаў на пажарніцтва трэба vзлажыць на усё грамадзянства.

На падставе даных П.З.У.В. гэта інстытуцыя выдала на падтрыманьне пажарніцтва у цэлай Польшчы у 1926 г. для 1657 стражаў — 600,538 зл., 1927 г. для 2517 стражаў — 1,028,773 зл., і за першую палову 1928 г.—510,000 зл.

На тэрэне Віленскага ваяводзтва у гэты час выдана: 1924 г. — 5,421 зл., 1925 г. — 26,894 зл., 1926 г.—44,204 зл., 1907 г.—22,929 зп. і за 9 месяцаў 1928 г.—21,552 зл.

Удзел павятовых самаўрадаў у падтрыманьні пажарніцтва у Віленскім ваяводзтве уяўляецца ў наступных лічбах: Соймікі вызначылі у бюджэце на 1928—29 г. на Саюз 4,700 зл. і на стражы—9,367 зл., але фактычна выдалі Саюзу толькі 1,900 зл.

У параўнаньні з цэнтральнымі ваяводзтвамі гэта дапамога самаўрадаў зводзіцца амаль на 0. Напр. , у Келецкім ваяводзтве павятовыя Соймікі выдаткавалі на пажарніцтва ў 1927 г. — 344,612 зл. і П. У. З. В. — 206,029 зл.

Цяпер на ўсё Віленскае ваяводзтва ёсьць адзін інспэктар і адзін інструктар, які знаходзіцца пры цэнтралі Саюзу. А для лепшае падрыхтоўкі пажарніцтва трэба было-б мець аднаго інструктара на два паветы, хаця Саюз імкнецца да таго, каб мець аднаго інструктара на кожны павет.

Для ілюстрацыі прывядзём некалькі даных з разьвіцьця пажарніцтва у Вільні. Да 1925 г. у Вільні былі толькі конныя бочкі і насосы. Цяпер места мае 7 самаходаў, з якіх адзін воз скорае помачы з насосам. 3 аўтанасосы і тры аўтабочкі. На 1929 г. прадбачана бюджэтам павялічэньне яшчэ на 3 аўтавазы — 1 мэханічную драбіну і дзьве бочкі. Вартасьць усяго інвэнтару складае больш 138,000 зл. У меставым бюджэце на пажарніцтва асыгнавалася: у 1926 г. — 260 тыс. зл., 1927 г. — 330 т. зл., 1928 г. — 380 тыс. зл. і 1929 г.—400. т. зл.

Дык, як бачым з гэтага кароткага агляду, стан пажарніцтва у Віленскім ваяводзтве стаіць на вельмі нізкай ступені і патрабуе яшчэ вялікіх высілкаў як з боку грамадзянства, гэтак і самаўрадаў, для паднясьцiся на належную вышыню, адпавядаючую свайму назначэньню.

# Самаўрадавая хроніка.

## СІНЯЎСКАЯ ГМІНА.

Віленская польская газэта „Слово" (нумар 27) зьмяшчае вельмі цікавую карэспандэнцыю з Сіняўскае гміны.

„Цікавы і вельмі прыемны маем факт для адцяненьня—піша газэта. „Т-во Обороны Крэсув Заходніх" зьвярнулася да павятовых і гмінных самаўрадаў з просьбаю аб грашовым падтрыманьні акцыі, зьвязанай з абаронай польскасьці у заходніх дзяльніцах нашае дзяржавы перад нямецкім націскам, роўным чынам для барацьбы з анямечаньнем сярод палякаў, якія жывуць у Нямеччыне.

Амаль ня ўсе гмінныя самаўрады прынялі да ведама адозву і схавалі пад сукно. Выняткам зьяўляецца толькі Сіняўская гміна.—Ласьне, там гмінная рада на прапазыку войта Антона Мелашкевіча і сэкрэтара Ігната Родкевіча у дню 12. I ухваліла ахвяраваць з бюджэтных рэштак ад 1928—29 г. г. 100 зл. для Т-ва Абароны Зах. Крэсаў, вызначыўшы 50 зл. на абарону польскасьці Зах. Крэсаў, а другія 50 зл. на культурную дапамогу для палякаў, пражываючых на даўняй тэрыторыі польскай, якая цяпер, нажаль, належыць да Нямеччыны.

Ухвала Сіняўскае Гміннае Рады заслугоўвае ня толькі на выражэньне поўнага прызнаньня, але і на увагу. Ёсьць яна тым характэрыстычнай, што на 15 асобаў, уваходзячых да складу Рады, ёсьць толькі 1 паляк, 1 жыд і 13 беларусаў..."

Гэта называецца быць большым каталіком, чым рымскі папеж.

Калі жыды маюць свайго Бэрку Ёселевіча, дык беларусы маюць Сіняўскую Гмінную Раду, якая уцерла нос польскім гмінным Радам у ахвярнасьці на абарону „польскасьці" ня толькі на Заходніх Крэсах, але на'т і за граніцаю.

Мусіць, ляўры Бэркі Ёселевіча не даюць спаць беларускаму войту Сіняўскае гміны Антону Мелашкевічу.

У адным з наступных нумароў „Слова" (N 34) у карэспандэнцыі пад загалоўкам „Ці варта цешыцца?", карэспандэнт адносна гэтае ухвалы Сіняўскае гміны між іншым піша:

„Ляпей-бы пан войт зрабіў, калі-б не налягаў на радных, каб галасавалі, як быццам іх вельмі абходзіць польскасьць на заходняй граніцы ці за граніцаю. Гэткая містыфікацыя, уводзячая людзей у абмылку, зусім не пажаданая".

Вось дык дачакаўся! Стараўся, стараўся пан войт і перастараўся! Замест падзякі, на'т палякі! адносяцца да яго чыну „з пагарзэньнем".

## БЮДЖЭТ ВІЛЕНСКА-ТРОЦКАГА КАМУНАЛЬНАГА САЮЗУ НА 1929—30 ГОД.

Бюджэт Віленска-Троцкага павятовага камунальнага саюзу на 1929—30 г. уложаны у наступным відзе:

Звычайныя выдаткі дасягаюць агулам— 704,565 зл., з іх: 1) на агульную адміністрацыю—9,997 зл., 2) на утрыманьне сойміковага дому—5,812 зл., 3) на выплату даўгоў—25,000, 4) на дарогі і публічныя пляцы — 264,075 зл., 5) на асьвету—7,700 зл., на субсыдыі для культурна-асьветных арганізацыяў — 1,400 зл., 7) на публічнае здароўе — 44,900, 8) на падтрыманьне земляробства — 122,927, 9) на падтрыманьне прамысловасьці і гандлю—6,530 зл., 10) на публічную бясьпеку — 21,237 зл. і 11) на розныя выдаткі— 11,850 зл.

Выдаткі надзвычайныя складаюць 388,000 зл., з іх: а) на будову шошы Панары—Ляндвароў—275,000 і б) на будову псыхіятрычнага шпіталю ў Койранах—24,000 эл.

Звычайныя даходы складаюцца з наступных аддзелаў: 1) камунальнае маемасьці — 18,945 зл., 2) камунальных прадпрыемстваў— 5,533 зл., 3) субсыдыі—17.732 зл., 4) звароты—28,683 зл., 5) адміністрацыйныя аплаты— 900 зл., 6) аплата за карыстаньне публічнаю маемасьцю—59,975 зл., 7) удзел у дзяржаўных падатках—27 000, 8) дадаткі да дзяржаўных падаткаў—256,883, 9) падаткі—285,961.

Даходы надзвычайныя складаюць — 338,000 зл., з якіх—1) субсыдыя Міністэрства публічнае працы на будовы шошы Панары-Ландварова—225,000 зл., 2) рэшта бюджэтнага крэдыту на 1928—29 г. — 50,000 зл., 3) і рэштка (надвышка) бюджэту з 1928—29 г.— 58,000 зл.

— *З Дзісьненскага Сойміку.* У мінулым месяцы некалькі дзён засядала камісія пад старшынствам Дзісьненскага Старасты п. М. Янкоўскага над укладам бюджэту на 1929—30 год. Камісія складалася з фаховых сілаў і апрача бюджэту разглядзела яшчэ шмат справаў, як напрыклад: мэліорацыі, дапамогі пацяпершым ад неўраджаю, у зьвязку з чым прынята рад ухвалаў, датычачых забясьпячэньня жыхароў ад голаду, ахова земляробскіх гаспадарак ад упадку, дапамогі сеўнай, гваранцыі крэдытаў і іншае. А каб усё гэта лягчэй правясьці у жыцьцё, 17 студня адбыўся зьезд войтаў і бурмістраў.

— *Са Сьвянцянскага Сойміку.* 25 студня Павятовы аддзел укадаў бюджэт Сьвянцянскага Сойміку на 1929—30 год, які у палове бяг. месяца будзе аддадзены на разгляд Сойміку.

— *Недагляд ў Гарадоцкім Гмінным Урадзе, Маладэчанскага павету.* Як пішуць польскія газэты, аднаго дня мінуўшага месяца заўважана было раніцай, што каса Гміннага Ураду была адчыненай. Спраўдзіўшы грошы аказалася, што не хапае 1635 злотых. Дзеля таго, што ніякіх ушкаджэньняў не скансэтавана, прыпушчаюць, што каса ня была зачынена на ноч.

Злодзей, відаць, быў чымсь спалоханы і не пасьпеў забраць быўшых у касе — 15 руб. залатых і 117 зл. ў білёне.

Недахоп грошы пакрыў войт гміны Б. Ігнатовіч. Паліцыя вядзе сьледзтва.

— *Паседжаньне ваяводзкае рады ў Навагрўдку.* На 18 лютага вызначана паседжаньне Навагрдзкае ваяводзкае рады, у склад якой уваходзяць: пас. Таўропіньскі (соймік Барановіцкі), Юшкевіч (с. Слонімскі), Мальскі (с. Лідзкі), Госкоўскі (с. Стаўпецкі), Яленскі (с. Нясьвіскі), Волчацкі (с. Валожынскі). Гэта будзе першае паседжаньне рады і будзе мець арганізацыйны характар.

— *Пажычка на мэліорацыю.* Наваградзкі соймік атрымаў 18,000 зл. на мэліорацыю грунтаў ральнічае школы у Кушэлеве.

— *Увазе войтаў.* У зьвязку з апошнімі сьнежнымі заносамі некаторыя войты атрымалі загад зьвярнуць асаблівую увагу на стан дарогаў, якія павінны быць упарадкаваны, каб ня было ніякіх перашкод для пешага і коннага руху.

— *З Радашкавіч.* Ёсць прыказка: „сем разоў прымерай, а раз адрэж". Але, нажаль, ня ўсе гэнае прыказкі трымаюцца. Радашкоўскі магістрат распачаў будову вялікага гмаху, у якім павінны былі месьціцца магістрацкая канцэлярыя, саля меставая, рэміза пажарнае стражы і г. д. Але не падумаў аб галоўным—грошах. Як толькі распачалася будоўля, не хапіла грошаў. Магістрат зьвярнуўся да Банку Гаспад. Краёвай з просьбаю аб пазычцы. Але той адмовіў. Цяпер магістрат ломіць галаву над тым, як-бы абараніць выбудаваную частку гмаху ад развалу.

Пры гэтым цікава тое, што у раёне Радашкавіч няма ніводнае цагельні, хаця ёсьць і гліна і адпаведныя мейсцы. 1000 штук цэглы каштуе 160 зл. У месьце адчуваецца вялікая патрэба цэглы. А магістрат, заместа таго, каб задавольніць гэную жыцьцёвую патрэбу, распачынае вялізарныя гмахі, якіх ня можа скончыць.

# Тутэйшая хроніка

КЛОПАТЫ АБ ПАЦЯРПЕЎШЫХ АД НЕЎРАДЖАЮ.

8 лютага адбылася ў Віленскім ваяводзкім гмаху конфэрэнцыя прадстаўнікоў ральнічых арганізацыяў з Віленскага ваяводзтва для абгаварываньня справы удзелу гэтых арганізацыяў у акцыі дапамогі насельніцтву, пацярпеўшаму ад неўраджаю. Прэзасам конфэрэнцыі быў п. Ваявода.

На конфэрэнцыі сцьверджана была цяжкая сытуацыя маларольнага і патрэбнасьць хуткае помачы. Распачалася дыскусія, у рэзультаце якой гэтак званыя „гаспадарчыя сфэры“ правялі свой праэкт — збору дабрахотных ахвяраў для церпячых голад. З гэтаю мэтаю будзе арганізаваны „Камітэт Помачы насяленьню пацярпеўшаму ад неўраджаю.

Гэткім чынам увесь шум каля аказаньня помачы галадаючым зьвёўся... да збору дабрахотных ахвяраў. Трэба пажадаць пасьпеху Камітэту, які яшчэ пакуль не атварыўся. Але невядома, ці прынясе ён рэальную карысьць.

Калі у Італіі нядаўна здарыўся выбух вулькану, прычыніўшы шмат шкоды бліжэйшаму насельніцтву і пачаўся збор дабрахотных ахвяраў для пацярпеўшых, дык Мусаліні забараніў на‘т гэтую акцыю, матывуючы, што пацярпеўшыя не жабракі. Калі яны раўнапраўныя грамадзяне, плаціўшыя падаткі, дык маюць права на ўрадавае падтрыманьне.

У нас бюджэт на 1929—30 г. прадбачыць надвышку даходаў над расходамі каля 130 міл. зл. Здаецца, можна было-б з гэтага ахвяраваць штосьь для ахвяраў стыхійных няшчасьцяў.

ТОЛЬКІ ДВА ТЫДНІ ДЛЯ СЦЬВЕРДЖАНЬНЯ ПАДДАНСТВА. Адміністрацыйныя ўлады зрабілі загад, каб фармальнасьці сцьверджэньня падданства старастамі вывыконваліся у працягу двух тыдняў. Пры сцьверджаньні грамадзянства вымагаюцца выпіскі з становых кнігаў сталага насельніцтва.

ЗАУСЁДНАЯ БРАХНЯ „ДЗ. ВІЛЕНСК. Ёсьць у Вільні эндэцкая польская газэта „Дзеньнік Віленьскі“, якая вырозьніваецца тым, што калі піша што-небудзь аб беларусах, дык ня можа абыйсьціся без таго, каб не апаскудзіць іх. На‘т калі хто зводзіць свае асабістыя парахункі з кім-небудзь з беларускіх дзеячоў, ці наагул хоча скампрамітаваць беларускі рух, дык шпальты „Дз. Віл.“ заўсёды да іх услугаў. Няма такога бруду, ілжы і інсынуацыі проці беларусаў, якіх бы ахвотна ня зьмесьціў на сваіх старонках гэты беларусаедзкі орган віленскіх энэдэкаў, які першы знайшоў у праграме Хр. Бел. Дэм. „камунізм“ і да гэтае пары вядзе проці яе барацьбу.

Праўду трэба сказаць, што ніхто не зьвяртае і увагі на сталую брахню „Дзен. Віленск.“ на беларусаў. Ды й мы не з вярнулі-б увагі, калі-б у даным выпадку пытаньне не датыкалася тых асобаў, якіх тут няма.

Вось адна з гэткіх красачак. У нумары 36, падаючы вестку аб тым, што ў Менску стварыўся „хаўрус беларусаў з Вільні„, піша: „Да ўраду хаўрусу выбраны: быўшы лаўнік магістрату м. Вільні ў часе літоўскае акупацыі ў 1920 г., роўным чынам старшыня Віленскага Саюзу Каапэратываў Чыжэўскі (абакраў каапэратыўны саюз у верасьні 1921 году і затым уцёк у Менск), сябра Ураду Віленскага Саюзу Каапэратываў (Малая Пагулянка, 12) Смоліч (абакраў каапэратыў і уцёк ў Менск... і г. д.

Калі цяпер гэтыя асобы знаходзяцца за кардонам і ня могуць нічым рэагаваць на гэткія абвінавачаньні, дык усё можна пісаць пра паасобных беларусаў, выехаўшых па тым ці іншым матывам у Менск, каб скампрамітаваць усіх беларусаў.

Калі „Дз. Віленскі“ у свой час падобную брахню пісаў пра сваіх (фундуш безрабоцьця, касу хворых і іншых), дык рэдактар яе добра ведае, чым гэта канчалася.

А пра беларусаў... што-ж валяй! Тым балей, што гэтых асобаў тут няма.

ДЗЕ КОРАТКА, ТАМ і РВЕЦЦА. Паводле польскіх газэтаў, чэхаславацкі ўрад спыніў субсыдыі для расейскіх і беларускіх студэнтаў. У зьвязку з гэтым чакаюць павароту да Польшчы каля 100 беларусаў, пазбаўленых магчымасьці прадаўжаць за граніцаю вышэйшую адукацыю дзеля адсутнасьці ма‘тэр‘яльных сродкаў.

ПЕРАГЛЯД СПРАВЫ ГРАМАДЫ. У канцы бягучага месяца распачнецца ў Апэляцыйным Судзе перагляд працэсу Грамады. Справа будзе разглядацца некалькі дзён. У склад суда уваходзяць: Старшыня — віцэ-старшыня Апэляцыйнага Суда п. Дмахоўскі, і судзьдзі—Юндзілл (дакладчык) і Бондцікевіч. Абвінавачываць будзе падпракуратар Парчэўскі і Коркуць.

Прысутнасьць на судзе абвінавачаных неабавязкава, дзеля таго, што яны параскіданы па розных вастрогах і дастаўка іх зьвязана з вялікім цяжарам. Але яны маюць права прасіць суд аб дазволе на прыезд на свой кошт. Да гэтае пары вызвана 30 сьведкаў.

ПАСЕДЖАНЬНЕ РАДЫ БЕЛАРУСКАГА ІНСТЫТУТУ ГАСПАДАРКІ і КУЛЬТУРЫ адбылося ў нядзелю 3 лютага сёл. г. у Вільні. На парадку дня былі справы: 1) справаздача ўраду з дзейнасьці за мінулы 1928 год, 2) арганізацыйныя справы, 3) перавыбары Цэнтральнага Ураду і Рэвізыйнай Камісіі.

Прыняўшы да ведама справаздачу ўраду і абгаварыўшы справы арганізацыйныя, Рада Бел. Інст. Гасп. і Культ. выбрала новы цэнтральны ўрад, у склад якога ўвайшлі наступныя асобы: кс. В. Гадлеўскі, як старшы-

ня Ураду Інстытуту, пасол А. Стэповіч і інж. Ад. Клімовіч, як віцэ-старшыні, рэд. Я. Пазьняк — скарбнік, грам. С. Сьвістун—сэкрэтар, пасол П. Каруза і грам. Я. Васілеўскі—сябры Ўраду. Заступнікамі сяброў Ураду выбраны: сэнатар В. Рагуля і др. Бр. Туронак. У Рэвізыйную Камісію выбраны: кс. Адам Станкевіч, пасол Ф. Ярэміч, грам. Э. Будзька і сэнатар В. Багдановіч.

ВЫДАЛЕНЬНЕ II ВУЧНЯЎ з Радашкаўскае пачаткавай штолы. Польскія газэты паведамляюць, што па загаду Віленскага Школьнага Куратара звольнена з Радашкаўскае беларускае пачаткавае школы II вучняў нібы за тое, што іх ґады перавысілі школьны век.

ЗАКРЫЦЬЦЁ ГУРТКОЎ Т-ва БЕЛ. ШКОЛЫ. Польскія газ. паведамляюць, што ў выніку зробленае рэвізіі, якая быццам уяўніла вялікія недакладнасьці у рахунковасьці мясцовага Т-ва Бел. Школы, адміністрацыйныя ўлады змушаны былі спыніць чыннасьць гэтага Т-ва на абшары Слонімскага павету. Пры гэтым указываецца яшчэ і на іншыя прычыны, як належаньне да Т-ва зусім няпісьменных сяброў, змусіўшых улады зрабіць гэты крок.

Нядаўна, як ведама, быў закрыты уладамі гуртох Т-ва Бел. Школы у Наваградку з прычыны недакладнасьці у рахунковасьці.

САХА. Выйшаў першы нумар з 1929 г. сельска-гаспадарскае часопісі „Саха".

„САМАЎРАД ВЯСКОВЫХ ГМІН". Выйшла з друку брашурка „Самаўрад вясковых гмін" І. Пазьняка. Зьмест брашуркі: Праўная дзейнасьць сучаснага самаўраду. Брашурка можа быць карыснай для гмінных радных. Прадаецца у кнігарні „Пагоня", Вільня, Завальная 7, цана 20 гр.

НОВЫЯ КНІЖКІ. Выйшлі з друку: „Сірата" сцэнічны абразок у аднэй дзеі. Ю. Ігарэва, пераклад З. Верас. Цана 20 гр. „Ад чаго зло на сьвеце і другія апаваданьні". Л. Талстой, пераклаў У. Ініцкі. 24 стар., цана 30 гр., выданьне У. Знамяроўскага. Купіць можна ўва ўсіх беларускіх кнігарнях, як у Вільні, так і на правінцыі.

# Аб эміграцыі.

Пытаньне аб эміграцыі у Польшчы зьяўляецца аднэю з найпаважнейшых праблемаў. Гадавы узрост насельніцтва у цэлай Польшчы дасягае 450,000 асобаў, з якіх 70 прац„ ці 315,000 прыходзіцца на вёску. Але не узрастае у гэткай ступені прамысловасьць у краю якая дала-б заробак новапрыбываючым істотам. Дзеля гэтага эміграцыя, ці выезд у чужыя краі на заработак, зьяўляецца пакуль адзіным ратункам проці узросту насельніцтва ў Польшчы.

Паводле статыстычных даных, ад 1919 г. да 31 сакавіка 1928 г. эміgравала з Польшчы 945,603, з якіх да Эўропэйскіх дзяржаваў (Нямеччына, Францыя і інш.)) 467,163 чал. і пазаэўропэйскіх—478,440 чал. Сярэднім цяпер выяжджае з краю каля 132,000 чалавек у год.

У гэтым кароткім артыкуле мы ня будзем затрымліваццa над тым, як змагацца з узростам безрабоцьця у краю, як роўным чынам над тымі вымаганьнямі, якія ставяць дзяржавы пры прыйме нашых эмігрантаў, а укажам толькі на тыя інстытуцыі, дзе магчыма атрымаць патрэбныя інфармацыі, дзеля таго, што часта паступаюць да нашае рэдакцыі запытаньні, як можна выехаць да Канады, Бразыліі ці іншых краёў.

Апякуецца у нас над эміграцыяй Міністэрства Працы і Грамадзкае Апекі праз падлягаючы яму „Ужонд Эміграцыйны". Эміграцыйнаму Ураду падлягаюць урады пасрэдніцтва працу (П. У. П. П.) на Віленскае ваяводзтва: Вільня, вул. Субач; паветы — Вільня-Трокі, Ашмяна, Сьвянцяны, Браслаў, Дзісна, Вялейка, Маладэчна, Паставы.

Наваградзкае ваяводзтва: Баранавічы, вул. Шосова 9, тэл. 70, паветы—Баранавічы, Слонім, Несьвіж, Стоўбцы. Аддзяленьне — Навагрaдак, урад ваяводзкі, паветы — Нваградзкі, Лідзкі, Валожынскі.

Ваяводзтва Беластоцкае: Беласток, вул. Ліповая, тэл. 268; пав. — Беласток, Бельск, Падляскі, Астролэнка, Ломжа, Кольно, Выс. Мазовецк. Аддзяленьне: Горадня, вул. Ожэшковай 3, тэл. 197; пав. — Горадня, Сокулка, Сувалкі, Аўгустоў, Ваўкавыск.

Ваяводзтва Палескае: Брэст на Бугу, вул. Кшыва 6, тэл. 117; пав.—Брэст на Бугу, Дрогічын, Камень-Катырскі, Кобрын, Косаў, Лунінец, Пінск, Пружаны, Сарны, Столін.

У гэтых Урадах Пасрэдніцтва Працы можна арымаць усе інфармацыі адносна выезду да тае ці іншае дзяржавы.

З указанымі інстытуцыямі супрацоўнічае і знаходзіцца у кантакце „Польске Товажыство Эміграцыйнэ" (Варшава, Алее Еролімске, 33), якое выдае спэцыяльную часопісь, пасьвечаную эміграцыйным справам,—„Выходзьца" і удзяляе ўсялякія інфармацыі.

Эміграцыйны Урад выдае „Бюлетын Ужэнду Эміграцыйнэго в справе эміграцыі і осадніцтва". Хто цікавіцца справамі эміграцыі, рынкамі працы у краю, асадніцтвам і г.д., можа знайсьці у гэтых двух выдаўніцтвах усе патрэбныя інфармацыі і парады.

Кожны, хто мае намер выехаць заграніцу на працу, павінен безварункова высьцерагацца усялякіх пасрэднікаў і агентаў, ці пры атрыманьні патрэбных на выезд дакумэнтаў, ці пры куплі параходных картаў, сярод якіх ёсьць шмат звычайных жулікаў, якія займаюцца ашуканствам латваверных людзей. За усімі інфармацыямі і парадамі на-

атэстат. Вы бачыце, чаго можна спадзявацца ад палітыка, які 87 выбранцаў Народу сьмее называць „жменяй людзей"! У паступку п. Умястоўскага відаць толькі адно: бязсільная злосьць і завісьць, што вось ня ён, а нехта другі працуе з Народам.

Адозва п. Умястоўскага, паміма абразы ўсяму Зьезду, яшчэ зьмяшчае інсынуацыі проці нас у зьвязку з тым, што нашыя арганізацыі чэрпаюць сродкі з „сьвета—калёровай ігры".

Паны! Што арганізацыям нашым дае сродкі „Беларуская Хатка"— ніхто не ўкрывае. Скуль-бы сродкі ня йшлі, абы яны не пахлі здрадай — калі яны ідуць на справы карысныя Народу — яны ня могуць быць ганебнымі. Грошы, якія мы маем, ідуць, як Вы самі ведаеце, на агульную справу. — Вы бачылі бібліотэкі — чытэльні „Прасьветы" на вёсках, бачылі тэатральныя трупы, чытаеце нашую газэту, маеце выданьня намі законы. У выбарчай акцыі — вы бачылі нашых прадстаўнікоў, інструктараў, нарэшце сяньняшні Зьезд — сабраўся пад дахам той-жа „Хаткі". Апрыч таго — „Хатка" дае заработак больш як 60 безработным, пераважна беларусам...

П. Умястоўскі, які іграе тут ролю нявіннай у сэнсі грошаў Зузанны, мае амаль ня столькі-ж, колькі мы. Працуе ён ужо 8 месяцаў. А што ён зрабіў за свае з „чыстых" крыніцаў паходзячыя грошы? Апрыч газэты ня даў і не дае нічога, не стварыў нічога, нічым сябе творчым не выявіў...

Паны! Канешна прайсьці над гэтым да дзеннага парадку нельга. Але і рэагаваць трэба так, каб хто не сказаў, што Зьезд — ... з гарматаў страляў па... вераб'ям.. Даць гэтым панкам навучку і годзе!. (Доўгія вопляскі.)

## ПРАМОВА СЭН. НАЗАРЭУСКАГА.

Сэн. Назарэўскі выступае проці палітыкі, якую ўнёс на Зьезд Мамонька і для якой можна знайсьці другое мейсца і час. Але гаспадарчымі справамі Радныя павінны заняцца. Затым выступае проці рэвалюцыйнага спосабу, які прапанаваў Мамонька.

## ПРАЦА КАМІСІЯУ.

Пасьля агульнай дыскусіі быў аб'яўляны перарыў, у часе якога была адчынена запісь сябраў у камісіі: гаспадарча-зямельную, культуральна - асьвятовую, агульную і рэдакцыйную. Пасьля паўтарагадзіннай працы камісіяў былі выпрацаваны наступныя рэзалюцыі:

# РЭЗАЛЮЦЫІ.

## I. У СПРАВЕ ГАСПАДАРЧА-РОЛЬНАЙ.

1. Найхутчэйшае правядзеньне рольнай рэформы.

2. Дарэзка зямлі падчас камасацыі, падзел на хутары і меліярацыя пры адначасовым урадавым крэдыце.

3. У часе пераходу на хутары, як роўным чынам пры камасацыі і меліярацыі дамагацца грашовай запамогі.

4) Устрымаць прыватную спэкуляцыю зямлёю, ня выключаючы спэкуляцыі зямлёю усялякага віду.

5. Імкнуцца, каб камасацыя была выпаўнена ў поўнай меры законнай нормы аб камасацыі, якая датычыць абавязковай дарэзкі гэтак зв. „упоўнаральненьня" карлаватых гаспадарак.

6. Арганізаваньне дзяржаўнага рольнага банку з спэцыяльнаю мэтаю запамогі сялянам падчас дакупкі зямлі.

7. У часе парцэляцыі абшарніцкай і іншай зямлі ў першую чаргу здавольніць патрэбы мейсцовага сялянства.

8. Выдаці дзерэва на адбудову зьнішчаных у часе вайны гаспадарак. Тым гаспадарам, якія выходзяць на хутары, будулец павінен выдавацца самаўрадамі на карысных варунках.

9. Дзеля нястачы дзерэва апаловага і беднасьці насяленьня — такса на дзерэва апаловае як з дзяржаўных лясоў, гэтак і прыватных павінна рэгулявацца гмінными ўрадамі.

**УВАГА:** Усе палёгкі павінны ўдзяляцца толькі тым гаспадарам, права якіх на гэта будзе сцьверджана самаўрадам.

10. Для падняцьця гаспадарчага роўня краю прызнаецца неабходным:

а) пашыраць сеткі культуральна-гаспадарчых арганізацыяў, як ральнічныя колкі, малочныя, сыраварні і г. д. пры шырокім удзеле інструктараў — беларусаў.

b) пашыраць спажывецкія і вытворчыя каапэратыўныя арганізацыі.

c) утварэньне пунктаў гадоўлі расавага статку, паказацельных гаспадарак (агароднідтва, садаводзтва, пчалаводзтва, гадоўля птушак і г. д.)

d) Утварэньне пунктаў пазычкі земляробскіх машынаў для шырокага карыстаньня сялянамі.

е) Шырокая арганізацыя пазычковых касаў, сялянскіх банкаў, таварыстваў узаемнага крэдыту і г. д.

f) Павялічэньне лічбы аграномаў і аграномічных інструктараў для шырокай і даступнай запамогі сялянству.

11. Прасіць аб скасаваньні падатковых залегласьцяў дробным і бедным гаспадарам наагул, а асабліва залегласьцяў зямельных з адначасовым пераглядам ападаткаваньня дробных гаспадарак.

12) Шырокая і даступная праўная запамога для сялянства праз адчыненьне пры гмінных і павятовых самаўрадах спэцыяльных павятовых бюро.

**Беларусы Радныя! Запісывайцеся да свайго камітэту па справам Самаўрадаў!**

## II. У СПРАВЕ КУЛЬТУРАЛЬНА-АСЬВЯТОВАЙ.

Першы Зьезд Радных Беларусаў Віленскага і Наваградзкага ваяводзтваў пастанавіў:

1. Імкнуцца да правядзеньня школьнага плебісцыту ў варунках свабоднага выяўленьня волі насяленьня.

2. Наданьня правоў існуючым сярэднім беларускім школам.

3. Грашовая запамога для культуральна-асьвятовых беларускіх арганізацыяў на вёсцы.

4. Дапушчэньня ўсіх беларускіх матурыстаў да вышэйшых польскіх школаў.

5. Адчыніць кафэдру беларусазнаўства пры Віленскім унівэрсытэце.

6. Даручыць Т ву „Прасьвета“, каб прасіла Міністэрства Асьветы аб спыненьні школьнымі мейсцовымі ўладамі перашкодаў у адносінах да беларускага школьніцтва, асабліва ў адносінах да беларускай гімназіі ў Клецку.

7. Неадкладнае адчыненьне беларускіх школаў там, дзе насяленьне гэтага жадае.

8. Даць шырокую магчымасьць адчыненьня прыватных беларускіх школаў.

9. Адчыніць на кошт дзяржавы дзьве вучыцельскія сэмінарыі і пэдагогічны інстытут.

10. Адчыненьня беларускіх вучыцельскіх курсаў для ўсіх беларускіх вучыцеляк і вучыцеляў з мэтаю здабыцьця імі вучыцельскай кваліфікацыі.

11. Адчыніць беларускія гаспадарча-тэхнічныя і рэмесьляныя школы.

12. Залічэньня на эмэрытуру беларускіх вучыцеляў незалежна ад таго, у якіх школах яны працавалі раней.

13. Да школьнай працы павінны быць дапушчаны бяз розніцы як беларускія вучыцелі, гэтак сама і вучыцелькі.

14. Прасіць Міністра Асьветы аб тым, каб беларускія вучыцелі, скончыўшыя вучыцельскія курсы у Вільні і Кракаве і працуючыя цяпер у польскіх школах, былі вернуты да беларускіх, ці утраквістычных школаў.

15. На вучыцельскія пасады павінны прыймацца вучыцелі — беларусы, не маючыя польскай кваліфікацыі, для якіх павінен быць устаноўляны тэрмін здабыцьця кваліфікацыі.

16. Прасіць Міністра Асьветы аб выдаленьні з пасады школьнага інспэктара Вялейскага і Маладэчанскага паветаў п. Пломінскага, як чалавека, які сваею шовіністычнаю палітыкаю выклікае ўзмацненьне нацыянальных антаганізмаў.

## III. У СПРАВЕ АРГАНІЗАЦЫЙНАЙ.

1. Зьезд прызнае неабходным істнаваньне беларускай арганізацыі па справам Самаўрадаў, якая мела-бы на мэце ўдзяленьне шырокай юрыдычнай і іншай запамогі самаўрадавым працоўнікам Беларусам у межах закону аб Самаўрадах.

2. Арганізацыя гэта павінна мець характар апалітычны і займацца выключна справамі, уваходзячымі ў компэтэнцыю Самаўрадаў.

3. Зьезд канстатуе атсутнасьць арганізаваннасьці як сярод гмінных радных, гэтак сама і соймікаў і павятовых аддзелаў.

4. Зьезд прапануе сваім сябрам падзяліць ініцыятыву у мэтах арганізацыі і дасяжэньня згоды і салідарнасьці між усімі раднымі на гаспадарча-эканамічным грунце.

5. Зьезд прызнае неабходным у бліжэйшым часе склікаць павятовыя зьезды Радных з мэтаю накрэсьленьня пляну працы і ўяўленьня патрэбаў насяленьня, сьцьвярджаючы, што соймікавыя зьезды гэтай мэты не дасягнулі.

6. На павятовыя зьезды запрасіць прадстаўнікоў Самаўрадаў.

## Абед.

У першы дзень зьезду быў выданы для дэлегатаў Зьезду і госьцеў у памешканьні „Беларускай хаткі“ (Завальная 6 — 4) абед. На абедзе выступалі з прамовамі адвакат Стэфан Міцкевіч, старшыня Бел. Нац. Рады п. А. Паўлюкевіч, сэнатар п. Назарэўскі, дэлегат Галоўнага Ўраду Партыі Працы на Віленшчыну п. Сьвідэрскі, рэдактар газэты „Nasz Kraj“ п. Сьвенціцкі, п. Канапацкі, п. Друцкі-Падбярэзкі, п. Шыбут і іншыя. На абедзе быў прысутны прафэсар п. Владычко.

Даведаўшыся з прамовы п. Паўлюкевіча, што вядомы эўрапэйскі вучоны, прафэсар Віленскага Унівэрсытэту п. Владычко, паруніўся прыйсьці, каб сярод шэрай сялянскай беларускай масы пасядзець за скромнай вячэрай — радныя віталі прафэсара — патрона беларускай студэнцкай моладзі бурнымі галасамі: „няхай жыве!“ Праф. у адказ сказаў гэткую прамову:

„Я зьяўляюся патронам беларускай студэнцкай моладзі. Я маю з гэтаю моладзю безпасрэдняе дачыненьне. І я праканаўся, што беларуская моладзь надта здольная і ёсьць лепшым матэрьялам.

Бязумоўным фактам ёсьць тое, што тут

на рубяж Эўрапэйскай культуры расьце новая беларуская культура, чэрпаючая сілы з здаровых народных нетраў.

Гэтая культура яшчэ маладая, але я пэўны, што яна будзе разьвівацца і займе пачэснае мейсца у культурах эўрапэйскіх і уложыць сваю долю ў агульную скарбніцу сусьветнай культуры".

Сэрдэчная і простая прамова паважанага п. прафэсара — паляка, патрона беларускай студэнцкай моладзі — глыбока парушына усіх прысутных, якія адказалі дружным, гэтак-жа сэрдэчным: „няхай жыве нашы прафэсар Владычко!"

Абед закончыўся сьпевам беларускага нацыянальнага гімну „Ад веку мы спалі"".

А 9 гадзіне вечара быў наладжаны ў сялі Крэйнгэля (Людвісарская, 4) канцэрт Беларускага Хору, зарганізаванага Т-вам „Беларускай Хаткі", з удзелам салістаў: вядомага скрыпача, прафэсара віленскай кансэрваторыі п. Саламонава і сьпявачкі п. Зубовіч. Хор прапеяў з вялікім пасьпехам некалькі беларускіх і украінскік песьняў. Па жаданьню прысутных некатарыя нумары праграмы паўтараліся па некалькі разоў. Канцэрт закончыўся а 12 гадзіне ночы. Усе разышліся ў найлепшым настроі, наградзіўшы хор і салістаў масаю воплескаў. На гэтым і закончыўся Зьезд.

---

## Першы Зьезд Гмінных Радных — Беларусаў ў Вільні.



СЯБРЫ ЗЬЕЗДУ Ў САЛІ ПАСЕДЖАНЬЯ (Вільня, Вялікая № 47, б. саля „Паляс").

---

## Водгукі у Прэсе.

Першы Зьезд Радных Беларусаў у Вільні спатыкаў вельмі прыхільны водгук у многіх з самых распаўсюджаных у Польшчы польскіх часопісаў. Гэтак Кракоўскі „Illustrowany Kurjer Codzienny" (№ 312), адна з найбольш распаўсюджаных у Польшчы часопісаў, у спэцыяльнай карэспандэнцыі з Вільні пад загалоўкам „Першая маніфэстацыя лёяльнасьці Беларусаў", між іншым піша:

Пасьля прывітальных прамоваў былі высланы павітальныя тэлеграмы Прэзыдэнту Рэспублікі і Маршалку Пілсудзкаму, роўным чынам тэлеграма з павітаньнем адбываўшамуся ў Варшаве зьезду дэлегатаў гмінных радаў, у якой беларускі зьезд „вітае конгрэс колегаў Радных з цэлай Польшчы і сэрдэчна жадае мі згоднай і памыснай працы для дабра Дзяржавы і Народу".

Гэтыя тэлеграмы — заканчвае газэта, — гэта першая вялікая маніфэстацыя лёяльнасьці Беларусаў, сьвецчачая аб засаднічай пераменe ў настроях сярод тамашняга вясковага насяленьня.

* * *

Але найбольшую ўвагу ўдзяліў Зьезду Цэнтральны орган Партыі Працы „Epoka" (№ 309), блізка стоячая да цяперашняга ўраду Маршалка Пілсудзкага. Акрэсьліўшы падрабязна ўвесь ход 2-х дзённага Зьезду ад пачатку да канца і прывёўшы поўны тэкст

прывітальных тэлеграмаў і вынесяных зьездам рэзалюцыяў, газэта піша:

Заслужвае на ўвагу факт перамены ў настроі беларускага насяленьня ў кірунку лёяльнай і творчай працы на гаспадарчым і эканамічным грунце.

Спакойны, цэлавы і паважны ход паседжаньня зьезду, адбываўшагася пад знакам поўнай лёяльнасьці і супрацоўніцтва з братнім Польскім Народам у духу праграмы цяперашняга Ураду Маршалка Пілсудзкага, дарэмна прабавалі сарваць дапушчаныя на Зьезд, як госьці, вядомыя сваімі скандаламі (warcholstwem) дзеячы, як пасол Шапель, Мамонька, радны м. Вільні грамадавец Крук і іх прыхвасьні, раскідаўшыя праклямацыі з зьместам, ня згодным з духам і настроем Зьезду. Гэтыя спробы Зьезд асудзіў аднагалосна прынятаю рэзалюцыяй.

* * *

# „Тры Беларускіх Зьезды“.

Пад гэткім загалоўкам зьмешчана у № 23 органу Партыі Працы (урадовая партыя) „Наш Край“ перадавіца, якая з'яўляецца водгукам на быўшы 6 і 7 г. м. Зьезд Беларускіх самаўрадавых радных. Зьмяшчаем яе амаль цалком, як доказ таго, што найбольш моцная і уплывовая сяньня партыя, польскай дэмакратыі шчыра, прыхільна і спагадна трактуе Беларускія справы і справядлівыя жаданьні і патрэбы нашага Народу.

Даўшы кароткі нарыс сучаснай сытуацыі ў нас, аўтар піша:

„А вось прыклады разьбіцьця, ці проста кажучы — скандальства („warcholstwa“) некатарых беларускіх дзеячоў, якія ірвуцца сяньня да кіраўніцтва апініяй і справамі свайго народу.

У дні 6 і 7 г. м., аб чым, паміж іншым, мы даем на другім месцы, адбывалася першая ў адраджонай Рэчыпаспалітай конфэрэнцыя радных і войтаў Беларусаў з ваяводзтваў Віленскага і Навагрудзкага, скліканая праз Беларускі Камітэт па справам самаўрадавым, арганізаваны у б. г. праз Беларускую Нацыянальную Раду, сапраўды найбольш сяньня творчы і сьвядомы сваіх мэтаў, а афіцыяльна ужо некалькі год істнуючы орган Беларускага Народу.

Пры гэтай аказыі з здаваленьнем маглі мы сьцьвярдзіць нябывалы поступ творчай працы Беларусаў ува ўсіх галінах самаўрадавай гаспадаркі, які ідзе, у пары з высокай грамадзкай сьпеласьцю выбранцаў і прадстаўнікоў колькі сот вёсак і мястэчак, у большасьці, а мо, і выключна з беларускім насельніцтвам.

З няменшым здаволеньнем сьцьвярджаем такт арганізатараў Зьезду, якія у поўным зразуменьні значэньня самаўрадавых і гаспадарчых справаў, на Зьезд гэты запрасілі шмат асобаў, не маючых нічога супольнага з кірункам іх, арганізатараў, працы і з гары выключыўшымі усялякую палітычную дыскусыю, каб гэтым шляхам стварыць на будучыню супольную падставу сужыцьця сялянскіх групаў свайго Народу.

Той, хто да Зьезду, у незразуменьні стану рэчаў, мог мець нейкія сумлівы аднос на напрамку працы Беларускай Нацыянальнай Рады, а асабістыя імкненьні і удзел у іншай працы палітычнай, гаспадарчай ці культурнай не дапушчалі яго падаць руку *ініцыятарам сужыцьця*, не павінен быў пакazваць на Зьездзе, ані гасьцінасьць яго арганізатараў выкарыстоўваць на пераглядрэзультатаў уласнай працы і асабістых імкненьняў, каб у гэтым знайсьці выхад дзеля устанаўленьня пагляду на дабро агулу сваіх спаўграмадзянаў.

Тымчасам сталася іначай. Правы гасьціннасьці з гары з'ігнаравалі прадстаўнікі вялікшых групаў, як Ха-дэкі ксяндза А. Станкевіча, або падзеленага некалі моцнага Сялянскага Саюзу, а выкарысталі прадстаўнікі малых групак, альбо кандыдаты на верхаводаў толькі ўдалі яшчэ будучых партыяў.

Гутарка тутака аб так розных заслугамі, як роўна паглядамі і здольнасьцямі, як ведамы літэрат і публіцысты, апошні рэдактар „Беларускага Дня“ п. Ф. Умястоўскі, а тыповыя скандалістыя („warcholi“) і шукачы „Залатога Руна“, як пасол Антоні Шапель, экс-эс-эр Мамонька, камунізуючы на Віленскім бруку радны Кузьма Крук, А Міткевіч і іх прыхвасьні у стылю студэнта Луцэвіча і інш.

Гэтыя паны, не выключаючы рэд. Умястоўскага, што із шчырай прыкрасьцяй адцеміць мы павінны — аднясьліся да парадку нарадаў Зьезду спосабам, які надта многа кажа — аб іх уласнай моцы.

П. Мамонька зрабіў скандаль праз сваю недапушчальную палітычную агітацыю у часе нарадаў Зьезду і раскідваньне дэмагогічных праклямацыяў, быццам абуджанай да жыцьця неякай беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі; пасол Шапель і радны Крук „пратэставалі“ няма ведама пашто і проці чаго, а супрацоўнік „Маланкі“ студэнт Луцэвіч, дык проста быў выкінуты з салі нарадаў на другі дзень З'езду, бо ўвайшоў туды, будучы ня надта цьверозым дый веў сябе, як на кірмашу.

Найбольш сумным зьяўляецца тое, што у вачох сабраньня *перкарэсьліў сябе, як палітыка, ведамы пісьменнік п. Умястоўскі* (курсыў наш. Рэд.) ад якога найбольш можна была спадзявацца, што *ён сваей асобай ўзмац-*

*ніць у арганізацыйна спаянай Беларускай Нацыянальнай Радзе яе творчыя сілы.* Гэтый-жа *п. Умястоўскі* паміж іншым — два тыдні таму *склікаў свой зьезд, на якім меў ажно 18 прыхільнікаў сваей газэты!* (курсыў наш. Рэд).

Дык пераходзячы да парадку дзеннага над скандалістымі *гатунку Шапеляў і Мамонька, якія апрыч сябе сапраўды нікога не прадстаўляюць,* (курсыў наш. Рэд.) верым, што *„адозва п. Умястоўскага"* падчас З'езду была *фатальным непаразуменьнем, якое пярэчыць ролі, каторую узяў на сваe літэрацкія плечы п. Умястоўскі.* (курсыў наш.).

Беларускі Самаўрадавы З'езд пакінуў пасьля сябе вялікае уражаньне, *а яго значэньне, хоць-бы з увагі на спэцыфічны харак тар, гаспадарчай конфэрэнцыі — ня можа быць на'т раўняны са значэньнем гэтак рэкламаваных Зьездаў: літэрацкага п. Умястоўскага і палітычнага Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі, аиошні з якіх адбываўся у Вільні* (курсыў наш. Рэд.)

Не прадрашаючы далейшага разьвіцьця падзеяў у ажыўленым сяньня, дзякуючы зьнічтажэньню гэткай зморы, якой была „Грамада" у беларускім жыцьці — *з свайго боку шчыра жадаем перамогі тым, якія даюць творчую працу а не гучныя гутаркі* (курсыў аўтар).

На гэтым шляху, пакуль што знаходзіцца выключна адна Беларуская Нацыянальная Рада з усімі падпарадкаванымі ёй культурнымі і гаспадарчымі арганізацыямі".

Да гэтай стацьці няма чаго дадаваць. Тут есьць і прызнаньне значэньня і рэзультатаў працы Бел. Нац. Рады, а роўным чынам ацэнка, асуд тым безадказным выступленьням гора — палітыкаў à la Шапель, Мамонька et C-o, якія, ня могучы самі нічога стварыць, ані зрабіць для нашага мнагапакутнага народу, з дзікай проста зайздрасьці, што работа ідзе бяз іх, і есьць рэзультаты гэтае работы — усе высілкі свае скіравалі на тое, каб перашкодзіць працы на карысьць Народу. Што ім Народ і яго доля? Ім важна іхнія асобы і асабістыя інтарэсы. Ідзе ізь выбары, пахне мандацікамі... Адсюль іх дэмагогія і спробы ігры на эфэктах. Але як З'езд, так верым і увесь Народ наш ацэніць, як трэба нягодную работу гэтых паноў і калі яны прыдуць да Народу за галасамі пры выбарах у Сойм, — Народ адкажа ім тым, чым адказалі радныя, прадстаўнікі гэтага Народу на Зьезьдзе 7 г. м., а іменна выклікамі: вон!

---

Пераклад з польскага

## Некалькі слоў аб самаўрадзе і працы Радных-Беларусаў.

З сапраўднай прыемнасьцю бяру ў рукі пяро, каб у друку, на старонках першай беларускай Самаўрадавай часопісі кінуць некалькі вольных увагаў і заценак аб самаўрадавай працы наагул, а асабліва аб працы Радных — Беларусоў, якія атрымалі магчымасьць на грунце воластных радаў і соймікаў дабівацца палепшаньня быту свайго Народу.

Вось-жа трэ прыпомніць, што дагэтуль на Усходніх землях Рэчыпаспалітай самаўрад быў кепска зразумелы і трактаваны праз дзейнікі, маючыя над імі пагляд, у першай чарзе праз Старастаў, а далей — праз цалком залежных ад іх вызначаных бурмістраў і войтаў. Шырокія масы ня мелі доступу ў Соймік, у валасьныя Рады, ці Магістрат, дзеля гэтага ня магло быць на'т мовы аб нейкіх пазытыўных выніках працы, самаўрадавых арганізацыяў, не кантраляванай праз прадстаўнікоў ад насельніцтва, бо-ж самыя гэтыя органы паміж іншым засталіся ў стане хваравлівай тымчасовасьці.

Ані водны, хотьбы ажнулёны найлепшымі імкненьнямі, войт або бурмістр ня меў магчымасьці рабіць нешта згодна з жаданьнямі і трэбаваньнямі насельніцтва, бо быў зьвязаны воляй свах нібы-та хлебадаўцаў у „гары", якія надавалі ўсёй працы самаўрадаў кірунак паводле сваіх поглядаў.

„Рыба заўсёды пачынае сьмярдзець ад галавы", дык трудна было дамагацца, каб валасны самаўрад, або яго сябры былі добрыя, калі самым наглядчым уладам вельмі шмат можна было зрабіць закідаў.

Канец гэтаму сумнаму стану ў значнай меры, кажучы па праўдзе, палажыў г. зв. „маёвы пераварот", ад якога ў Рэчыпаспалітай пачалі ўстаноўлівацца новыя жыцьцёвыя вартасьці і саўсім новыя формы ўрадаваньня.

Да працы на кіраўнічых становішчах дапушчаны новыя людзі, з больш шырокімі, чым іхнія папярэднікі, небасхіламі думкі, якія, бяручы прыклад з тварца перавароту Маршалка Пілсудзкага, падпарадкаваліся ягонай „волі ўрадаваньня" і распачалі ў ва ўсіх галінах жыцьця працу ад падставаў.

Калі ўжо былі спынены благія звычаі, пазбаўленыя магчымасьці шкодзіць, Сойм з чэрадой дармаедаў. — урад маршалка Пілсудзкага ўзяўся за ўрэгуляваньне дагэтуль занядбанай самаўрадавай нівы.

Былі вызначаны ў ва ўсёй Дзяржаве, а значыцца і ў нашы Краі новыя выбары на прынцыпах роўнасьці і пропорцыянальнасьці і, што важней усяго — гэты прынцып усюды быў праведзены ў жыцьцё.

Гэткім чынам Самаўрад аказаўся ўзмоцнены прадстаўнікамі самых шырокіх масаў людпасьці, атрымаўшы, згодна з воляй гэтых масаў, новых сябраў і кіраўнікоў, і сяньня можа свабодна працаваць і разьвівацца.

Вельмі шкадую, што ў мяне нямашака пад рукой даных, паказваючых лік прадстаўнікоў беларускай вёскі. Аднак-жа лік гэты пэўне-ж зьяўляецца адпаведным сапраўдным нацыянальным саадносінам насельніцтва, та-

кім чынам, што ў ваяводзтвах Віленскім і Навградзкім большасьць у аднашэньні да ліку радных іншых нацыянальнасьцяў, не выключаючы і Польскай.

Для сяньняшніх радных — Беларусаў самаўрад ёсьць першы курс школы ў грамадзкай і нацыянальнай працы.

Час пакажа, ці гэтая школа ў сваім далейшым разьвіцьці вытворыць адпаведныя характары і ці ўстановіць сярод новага пакаленьня дзеячоў новыя крытэрыі на ход далейшага жыцьця беларускае вёскі.

*Самаўрадавы дзеяч павінен пакінуць прафэсыянальнае палітыканства, якое атручывала жыцьцё яго вёскі, павінен пазнаць самаўрадную вартасьць гэтага жыцьця ў працэсе мазольнай культурнай і гаспадарчай працы.* (курсыў аўтара).

Пераходзячы затым да памянёных у пачатку гэтага артыкулу ўвагаў аб працы Радных — Беларусаў, думаю, што тыя Радныя, з якімі я пазнаёміўся на быўшым 6—7 г. м. Самаўрадавым Зьездзе ў Вільні, даюць усялякую гарантыю таго, што яны добра разумеюць свае пачотныя абавязкі ў сэнсі, ў якім я працу раднага разумею.

Хай-жа дазволена мне будзе паўтарыць тых колькі словаў, якія я сказаў у часе Зьезду ў сваей прамове на банкеце. І так сама, як тады,—шчыра прызнаюся, што быў неспадзеўкі прыемна зьдзіўлены дзелавым і паважным ходам нарадаў паноў радных Як журналісты і публіцысты польскі, стоячы ў данным выпадку на становішчы безстароннага паглядчыка, я бачу ў гэтым залог лепшае будучыні для беларускага Народу.

Узварушылі мяне вашыя не ілжывым імкненьні да споўжыцьця і супрацоўніцтва з народам Польскім.

Ваш Зьезд, грамадзяне, паказаў, што вы ведаеце да чаго імкнецеся і якімі сродкамі Беларускі Народ можа мэту сваіх таемных лятуценьняў зьдзейсьніць.

Дзеля гэтага застаецца тольгі пажадаць, каб падобны кірунак працы на самаўрадавай ніве быў пуцяводным агулу Радных беларускіх.

Хай-жа жыве салідарнасьць і творчая праца Радных беларускіх! *Б. В. Сьвенціцкі*
Рэдактар часопісі „Nasz Kraj“

**Ад Рэдакцыі.** Зьмешчаючы з прыемнасьцю артыкул рэдактара часопісі „Nasz Kraj“ п. Сьвенціцкага, лічым патрэбным адцеміць гэты першы прыклад, калі польскі публіцыста забірае голас на шпальтах беларускай часопісі. Думаем, што гэты факт удзелу прадстаўніка польскага грамадзянства ў акцыі, маючай агульна-краёвую вагу і значэньне, знойдзе свой одклік. З свайго боку лічым, што на грунце самаўрадавым гэткая супольная праца ёсьць пажаданай і неабходнай.

# Самаурад, творчая праца і „палітыка“.

## (Замест прывітаньня Першага Зьезду Радных Беларусаў).

Даўна, ды слушна было сказана, што „палітыка дзеліць, культура еднае“. Запраўды-ж „палітыка у тым дрэнным разуменьні, якое прынята паўсюды ў нашыя ненармальныя часы, ёсьць перадусім, амаль ня выключна — барацьба ды грызьня розных палітычных, грамадзкіх, сацыяльных групаў і партыяў паміж сабой. Дык ясна, што барацьба гэта ідзе значна далей творчага змаганьня, ці канкурэнцыі, якія маюць мэту ствараць паўнату дый забясьпечыць усебаковае разьвіцьце шматгалінная жыцьця. Бо-ж табы гэтае нармальнае змаганьне — ў сынтэзе — ператвараецца ў супрацоўніцтва ўсіх гэтых розных, побач з сабой істнуючых у адзіным супольным сацыяльна-палітычным арганізме грамадзкіх групаў. Але ж у нас у тым і розніца і шкоднасьць нашай партыйнай барацьбы, якой захоплена, якой папросту атручана нашае жыцьцё, што кожная партыя ўважае дый заяўляе сябе—адзінай, маючай правы, на істнаваньне ў грамадзкім арганізме, і тым самым — адмаўляе усім іншым цалком права на жыцьцё і на працу ў ім на агульную ды супольную карысьць... Страшэнная шкоднасьць такой барацьбы ад'эмна-палітычнага зьместу ў тым, што пры ёй зусім забываецца аб найвышэйшых інтэрэсах усяго грамадзкага цэлага: гэтыя інтэрэсы цалком засланяюцца „бліжэйшай мэтай“— зьнішчажэньня праціўнікаў.

У нашыя часы, а асабліва у нашым бедным з бедных беларускім грамадзянстве, якраз справу ставяць так амаль ня ўсе нашыя партыі ды групы! Усе яны толькі і жывуць узаемнай незалежьсьцяй, ўсе яны хацелі-б папросту зьесьці жыўцом адна адну. І гэта так перад усім тэму, што ўсе нашыя партыі наогул вельмі мала працуюць у рэальным жыцьці—на карысьць таго роднага народу, які усе яны так лёгка хочуць ушчасьлівіць на паперы у гучных словах сваіх партыйных праграмах, палітычных дэклярацыях, дый ў заядлай злоснай палеміцы процi сваіх праціўнікаў у сваіх газэтах.

Наш агульны грэх — гэта недахоп грамадзка-палітычнага ўзгадаваньня нашага грамадзянства. Ня будзем, ведаючы яго карэньні ды прычыны, цалком вінаваціць у ім наша грамадзянства.. Не, шмат віны за гэты грэх ляжыць на тых ненармальных варунках і абставінах, якія створаны для абсалютна бязуладнага беларускага грамадзянства тымі, хто ўзяў сабе ў яго родным краі — цалком усю ўладу, ўвесь уплыў на жыцьцё Краю, пазбавіўшы гэткім чынам беларускі народ у цэлым усіх магчымасьцяў наступо-

вага, пляновага разьвіцьця і самаўзгадаваньня шляхам рэальнай працы над палепшаньнем свайго жыцьця і краю, працы, якая бязумоўна, навучаючы маральна-грамадзкай, а ў далейшым — і палітычнай адказнасьці, вымагае для яго-ж а і пэўнай меры ўлады...

Мы не баімся проста і рашуча сцьвярдзіць гэты бяспрэчны факт учасьця грэха польскай ўлады і грэха беларускага грамадзянства, — ў стварэньні і ўгрунтаваньні ў ім нерэальных настрояў. Пазбаўляючы беларускае грамадзянства магчымасьці працаваць на народнай ніве ў ва ўсіх галінах культурна-гаспадарчай працы, польская ўлада проста змусіла найбольш актыўныя, найбольш выдатныя яго адзінкі неяк круціцца ў пустаце, у якой іх творчая энэргія, ня маючы рэальнага аб'екту, скажалася, выраджалася, перагваралася ў „палітычны нігілізм", у „чыста палітычную" барацьбу, ставячую сабе нерэальныя, недарэчныя, безатказныя, адемныя, самазабіўчыя мэты зьніштажэньня праціўнікаў, а даводзячую фактычна да самазьніштажэньня гэтых адзінак дый ў далейшы і ўсяго грамадзянства...

З вышэйсказанага ясна, як дзе шукаць выхаду з створнага тупіку, якога леку ад гэтай залішне ўжо далёка пасунуўшайся хваробы. Творчай энэргіі народу і яго грамадзянства трэба даць нармальны выхад, нармальныя шляхі дзеяньня, працы і ўлады ў сваім жыцьці, ў сваім краі. І мы так сьмела і ясна ставім гэтае пытаньне цяпер, з асаблівай прыемнасьцяй сцьвярджаючы, што новая польская ўлада, здаецца, зразумела „першародны грэх" панаваўшага над намі дагэтуль полскага нацыяналізму, — грэх недаверра да Беларускага Народу, да яго арганізаванага грамадзянства, і стала на шлях стварэньня для яго магчымасьці выхаду з тупіку безуладнага істнаваньня, дый вылячэньня ад указанай вышэй хваробы „палітычнага нігілізму"...

Павольна, цяжка рэалізуецца на мясцох, дзе пануе яшчэ шмат дзеячоў „старай сыстэмы", шчыра дэмакратычная, веручая ў сілы і добрую волю нашага народа думка новай польскай улады, здаецца, цалком высьветленая ды дасьпеўшая ў уладным, кіруючым дзяржаўным цэнтры... Але ўсё-ж пачатак зроблены, шлях накрэсьляны, напрамак паказаны ўладнай рукой, і дасяжэньне мэты ўжо ў значнай меры залежыць і ад нас, ад самога беларускага грамадзянства... Бо-ж іншая рэч — змагацца з надужыцьцямі мясцовай адміністрацыі, рэалізаваць у творчай працы свае правы і інтарэсы, калі яе незаконныя перашкоды ўзапраўднасьці, хаця і „неафіцыяльна", падтрымліваюцца цэнтральнай уладай, як гэта было дагэтуль пры панаваньні нацыяналістычных урадаў у Польшчы, страшэнна дэмаралізаваўшых з абодвух бакоў нашае жыцьцё, а іншая рэч — мецьзаўсёды пэўнасьць, што на ўсякае на рушэньне закону, на ўселякі гвалт над правам чалавека—грамадзяніна — працаўніка— на мясцох можна знайсьці верную ўправу, ахову ды абарону ў цэнтры.

Сучасны ўрад па ўплывам, а калі і трэба, дык і ўладным націскам свайго павадыра Маршалка Пілсудзкага дае нам, беларусом, магчымасьць працы самастойнай, уладнай і адказнай ў самаўрадах. Сучасны ўрад даў нам магчымасьць у вольных выбарах пасладь у гмінныя рады сваіх лепшых грамадзян—працоўнікоў — беларусаў, забясьпечыўшы нас ад пагражаўшага нам націску ды гвалту з боку „ваяўнічага польскага нацыяналізму", які яшчэ такі сільны на мясцох! Праз нашыя Беларускія Самаўрады мы можам, паміма скампрамітаваных палітычных партыяў, дамагацца нашых правоў перад усім ад нас-жа саміх, папросту уласнымі сіламі, ўласнай працай, будуючы нашае культурнае, грамадскае і гаспадарчае жыцьцё...

І мы павінны яшчэ раз адзначыць, як нашую галоўную здабычу, як найдаражэйшую цэннасьць, дадзенную нам новай польскай уланай, гэта тое, што па гэтай творчай, культурнай і гаспадарчай працы будуць цаніць чалавека не паводле таго, ў якую партыю ён запісаўся, ды якія чужыя словы ён навучыўся паўтараць, як папуга, але толькі паводле яго рэальнай вартасьці, як працаўніка—барацьбіта на полі працы на карысьць народу. Бо-ж толькі гэтым шляхам наша грамадзянства вылячыць ад сваей страшэннай „палітычнай хваробы". Толькі тады яно кіне тую фальшывую „палітыку", якая дзеліць грамадзянства, каб яго загубіць яго-ж уласнымі рукамі, а распачнэ тую запраўды культурна-грамадзкую працу, якая лучыць усіх у адзінае грамадзянства, ствараючы запраўды моцныя, трывалыя падрубы і падставы для будаваньня на іх у прышласьці адзінага сьвядомага, спаянага гэтай ведай і працай, дык дзеля таго дастойнага, самастойнага і незалежнага нашага істнаваньня.

Калісь на ўсіх заграгічных курортах ды санаторыях, асабліва ў даваеннай Нямеччыне, усюды былі надпісі: „уселякія палітычныя размовы забаронены"...

Праца ў самаурадах для беларускага грамадзянства і зьявіцца такой „санаторыяй", дзе яно павінна будзе вылячыцца ад сваей „палітычнай хваробы". Найбольш ярых „палітыкаў" можам пацешыць: палітыка ад нас ня ўцячэ, але наадварот, у гэтых „апалітычных" санаторыях-самаўрадах мы самі толькі дасьпеем да запраўднай палітыкі, да якой цяпер, як сьцьерджана жыцьцём, як усьцяж сьцьвярджаюць, палямізуючы, ці прасьцей—лаючыся адзін з адным, павадыры нашых „палітычных партыяў", усе мы яшчэ вельмі і вельмі недарослыя.

Дык „першай брыгадзе" радных-беларусаў—прывітаньне!

*Стары „земец" — беларус.*

# Самаурэдавая Хроніка.

**— Зьезд войтаў і гмінных пісараў Віленска-Троцкага павету.** 20 га гэтага месяца адбыўся ў Вільні Зьезд Войтаў і гм пісароў В л Троцкага па вету.

Парушаліся справы: аб спосабе агульнай перапісі дамовай жывёлы, аб сьц ганьні пад ткаў, аб налаваньні абывацельства а гэтак ама аб рэестру № 3, які датычыцца ўсіх чужаземцаў, асеўшых на абшару гміны. Давол: драбязгова абглядалася справа аб но вых падставах бюджэтаваньня і новых правілах рахунковасьці, якія будуць абавязковымі ад новага году

Кожны войт атрымаў шарварачныя статуты, каб, карыстаючыся імі, паступова правясьці ліквідацыю шарварэчных павіннасьцяў.

**— Просьба аб інтэрвэнцыі.** Жыхары Жодзіскай гміны Вялейскага павету пісьмом за подпісамі каля 100 асобаў зьвярнуліся да Бел. Ктутпа спр Самаўрадаў з просьбаю аб інтэрвэнцыі ў п. Віленскага Ваяводы ў справе незацьверджаньня Вялейскім Старостай п. Нітаслаўскім без усялякіх прычынаў выбранага войта гр. Юльяна Аўгустыновіча.

Просьбе дадзены ход і справа высьвятляецца.

**Перавыбары да Гмінных Рад.** У канцы кастрычніка і ў пачатку лістапада г. г. адбыліся пера выбары да гмінных Рад. — Клецкай, Говэзьнянскай Сноўскай і Ланьскай Нясьвіск. павету.

Выбраны: ў Клецкай — 6 беларусоў і 4 палякі ў Говэзьнянскай — 8 бел. і 2 палякі і ў Сноўскай —, 7 бел., 2 палякі і 1 жыд.

Выбары войтаў вызначаны на 24, 25, 26 і 27 гэтага месяца.

**— Местовыя камунальныя ўладжаньні.** У Вільні на гэтых днях адбыўся адчыт інжэнэра І. Глятмана, які нядаўна па даручэньню Віленскага Магістрату езьдзіў за граніцу і прыглядаўся да тамашніх камунальных уладжаньняў. Між іншым цікава: ў Бэрне (Швэйцарыя) у местовай рэзьні абслуга складаецца з 7 вэтэрынараў, 6 урадаўцаў, 12 старажоў і 30 іншых працоўнікоў. Статак з вагонаў выходзе проста на вагі. Тут жа адразу пабіраецца і местовы падатак. На прадажу мяса межа выходзіць толькі з рэзьні. Статак забіваецца спэцыяльнымі маладкамі. Тут-жа ёсьць і халадзільнікі, дзе п рахоўваецца мяса

Сабакі, якія ловяцца гіцлямі, так сама, як і ў нас — трыманоцца 15 дзён. Пасьля забіваюцца, ці перэдаюцца ў вэтэрынарны Інстытут

Сала з забітых сабакаў зьбіраецца асобна і перэдаецца на фабрыкі на мыла Рэштк і паляцца ў спэцыяльных печах і атрыманае перарабляецца ў парашок ідзе на ўдабрэньне зямлі.

У Будапэшце (Вэнгрыя) для ўнармаваньня цэнаў на першыя патрэбы створана самаўрадавая адзінка, якая падлягае кантролі эправізацыйнай сэкцыі Будапэшскага магістрату. У ёй маецца шмат рожных аддзелаў, якія захопліваюць усе галіны першых патрэбаў, як напрыклад: аддзел біцьця птушак, дзе можа адразу зьмясьціць 50 тысячаў штук. З птушак па забіцьці пёры зьдзіраюцца без параньня, гэта каб даўжэй можна была трымаць у халадзільніках.

Яйцы ў спэцыяльных сартойнях перасартоўваюцца што дзённа каля 100 тысячаў штук. Кожнае яйцо пераглядаецца пад сьвятлом для спраўджаньня яго сьвежасьці. Есьць малочныя, якія выробляюць што дзённа да 10 тысячаў кілогр. масла.

У местовай пекарні 24 печы ў працягу 16 гадзін выпушчаюць 40 тысячаў кілагр. хлеба. Усе прадукты развозяцца зрана на 15 самаходах і 25 фурманках.

Для ўтрыманьня гэтага прадпрыемства места мае свой ўласны банк Апрача таго ёсьць уласнае па грабовае прадпрыемства, гатэль для бедных і лазьня, дзе ёсьць гэткія аграмадныя басэйны, што шмат людзей могуць у іх разам плаваць.

# Самаўрадавы парааднік.

Некалькі адказаў на пытаньні некаторых Радных і Войтаў.

*1. Пытаньне:* Ці войт мае дысьцыплінарную ўладу над гм пісарам і ці можа вызначаць яму кару ўвагаў і выгавараў?

*Адказ* Войт, як старшыня гміннага ўраду, мае права вызначаць кары — ўвагаў і выгавораў усім працаўнікам гміны, а значыць і гміннаму пісару, (гл. р. art. 56 і 57 Rosporządzenia Kom Gen Z. W. z dnia 26 IX 1919 г)

*2. Пытаньне.* Ці абавязаны войт гміны спаганяць штрафы, вызначаныя праз скарбовыя ўлады за нелегальную вырабку тытуню?

*Адказ.* Войт ня ёсьць абавязаным да гэтага, бо сьцяганьне грашовых кар выконваюць падатковыя сэквэстратары, якія маюцца пры падатковых урадах (ust 3 § 47 Rosporz. Ministrów Skarbu i Sprawiedliwości z dnia 15 listop 1926 г. u Dz. U N 120 р. 693)

*3. Пытаньне* Ці настаўнік пачатковай школы мае права патрабаваць ад гміны бязплатных дроў на апал сваей кватэры?

*Адказ* Не мае права, бо гэта застала скасавана ust. z d 13 VII 1920 г. (Dz. Ust. N 65 р. 434).

*4. Пытаньне.* Ці аддзел павятовы мае права дысцыплінарна караць працоўнікоў гміны, звальняць іх ці прыймаць без запытаньня Гміннай рады?

*Адказ* Аддзел павятовы ня ёсьць дысцыплінарнай уладай нац працоўнікамі гміны, а толькі над войтам і солтысам (art. 46 dekretu z d 4 II 1919 г.). Так сама аб прыняцьці і звальненьні працаўнікоў рашае гмінная Рада, але ўхвалу ў гэтай справе аб сэкрэтару зацьвярджае аддзел павятовы (art. 7 pkt. d. dekretu z d. 27 XI 1918 г.)

*5. Пытаньне* Ці мае права войт карыстацца бязплатнымі фурманкамі?

*Адказ* Мае права, але ў справах службовых і ў той норме і варунках, якія ўхваліла Гмінная Рада

*6. Пытаньне* Ці залежыць войт службова ад Старасты, ці ад Аддзелу Павятовага?

*Адказ.* Урадавы характар войта ўзалежняе яго як ад Аддзелу Павятовага, так і ад Старасты. У ва ўсіх справах, прадугледжаных w art. 216 cz 1 ust. z г. 1864, дзе войт выступае, як орган Дзяржаўнай Адміністрацыі, ён у сваіх учынках павінен выконваць ра спараджэньні Старасты і дзеяя гэтага і адпавядаць перад ім. А калі ен выступае прадстаўніком гміны

як самаўрадавай адзінкі, дык у гэтым выпадку падлягае надзору і кантролю аддзелу павятовага, а значыць і адпавядае перад ім (art. 45 dek. z dn. 4-II-1919 г. Dz. Pr. P. P. N 13 poz. 141)

7. *Пытаньне.* Ці падчас абрадаў Гмінн ай Рады, пры галасаваньні біруць удзел усе сябры гміннага ўраду, ці не?

*Адказ.* Сябрамі гміннай Рады лічацца ўсе радныя, а гэтак сама і сябры гм. ураду (art 16 Rosporządz. Komis. Gen. Z W. z d. 26 IX 1919 г. Dz. U. Z. C. Z. W. N 21), а значыць войт, заступнік войта і лаўнік на паседжанях Гміннай Рады карыстаюцца такім самым правам голасу, як і іншыя сябры рады.

# Закон
## АБ ПАВЕТОВЫМ САМАЎРАДЗЕ

### Распараджэньне Гэнэральнага Камісара Усходніх Земляў, як устаў аб паветовым самаўрадзе.

(Dz. Urz. Z. W № 90 poz. 1284).

На падставе арт. 2 прыказу Галоўнага павадыра Польскіх Войскаў ад 12 траўня 1619 г. (Dz. Urz. Zarz. Cyw. Z. W. № 3 z dn. 14 czerwca 1919 г. poz. 15), аб арганізацыі цывільнага Ураду на Усходніх Землях, занятых польскімі войскамі, загадваю увядзеньне на абшарах акругаў: Віленскага, Брескага і Мінскага паветовага самаўраду на наступных асновах:

### I. Аб паветовых самаўрадавых хаўрусах (związkach) *) і іншых граніцах.

Арт. I. Паветовы самаўрадавы хаўрус ёсьць публічна-праўная асоба. Тэрыторыяльна кожны паветовы самаўрадавы хаўрус абыймае адміністратыўны павет. Зьмена граніцаў адміністратыўных паветаў, пацягвае адпаведную зьмену абшараў паветовых самаўрадавых хаўрусаў.

Арт. 2. Калі з прычыны зьмены граніцаў (арт. 1 і 2) выявіцца патрэба раздзелу маемасьці заінтэрэсаваных паветовых самаўрадавых хаўрусаў, а также акрэсьленьне іх абавязкаў, тады, насколькі не будзе паміж імі дабравольнай умовы — разрахункі па маемасьці і падзел абавязкаў робіць начальнік тэй округі (цяперака ваявода), у склад якога ўваходзяць заінтэрэсаваныя паветовыя самаўрадавыя хаўрусы, або Генеральны Камісар Усходніх Земляў (цяперака Міністар Унутр. Справаў), у выпадку, калі самаўрадавыя хаўрусы ўваходзяць у склад больш, чым аднэй акругі (ваяводзтва).

Калі, з прычыны выдзяленьня з павятовага самаўрадавага хаўрусу гарадзкой гміны зьяўляецца патрэба падзелу маемасьці і абавязкаў заінтэрэсаваных самаўрадавых адзінак, тады, насколькі ня будзе паміж заінтэрэсаванымі самаўрадавымі адзінкамі дабравольнай ўмовы — робіць падзел гэты Начальнік Округі ( ваявода).

*) Гмінныя рады павету, павятовы Соймік і „Wydział powiatowy" — складаюць паветовы самаўрадавы хаўрус (Рэд).

На пастанове Нач. Округі (ваяводы) па вышэй паказаным справам, заінтэрэсаваным самаўрадавым адзінкам прыслугоўвае права ў працягу 4 тыдняў падаць жалабу Гэнер. Камісару Усх. Земляў (Міністру Унутр. Справаў), пастановы якога ёсьць аканчальныя.

Арт. 3. Распараджэньні ўрадовых уладаў і пастановы органаў самаўрадавых, якія абавязуюць па абшару, каторы выдзеляецца з даннага павету, застаюцца ў сіле, пакуль ня будуць адменяны, альбо зьменяны праз новае распараджэньне ўрадавых уладаў, ці пастановы самаўрадавых органаў.

Арт. 4. Гарадзкія гміны, выдзеленыя з паветаў, зьяўляюцца самаўрадавымі адзінкамі, раўназначнымі паветовым самаўрадавым хаўрусам і кіруюцца Гарадзкім Уставам з дн. 14 жніўня 1919 г. (Dz. Urz. Zarz. Cyw. Z. W. N 12 z dn. 22-VIII 19 г. poz. 99.)

Арт. 5. Паветовыя самаўрадавыя хаўрусы за згодай Генер. Кам. Усх. Земляў (Міністра Унутр. Справаў) дзеля асягненьня спэцыяльных паасобных самаўрадавых мэтаў могуць злучацца ў спэцыяльныя хаўрусы.

Арганізацыю і дзейнасьць гэткага спэцыяльнага харусу рэгулюе статут, якія зацьверджаецца Ген. Кам. Усх. Земляў (Міністар Унутр. Справаў).

Арт. 6. Дзеля абсуджэньня самаўрадавых справаў у межах заданьняў, узложаных на паветовыя самаўрадавыя хаўрусы, апошнія могуць ладзіць зьезды сваіх прадстаўнікоў за згодай Начальніка Округі (ваяводы), калі зьедз будзе складацца з прадстаўнікоў паветаў аднэй Округі (ваяводзтва), калі Зьезд склікаецца з прадстаўнікоў паветаў розных Округаў (ваяводзтваў), дык патрэба згоды Генэральнага Камісара Усх. Земляў (Міністра Унутраных Справаў).

### II. Аб сябрах паветовага самаўрадавага хаўрусу.

Арт. 7. Сябрамі паветовага самаўрадавага хаўрусу зьяўляюцца:

1. Сябры вясковых і мястэчковых гмінаў, якія знаходзяцца ў межах павету і ня выдзелены з паветаў.

У месцовасьцях, дзе яшчэ не абавязуюць уставы аб гарадзкім, мястэчковым і валасным самаўрадзе, сябрамі паветовага самаўрадавага хаўрусу ёсьць:

1. Асобы абоіх палоў, якія маюць поўных 21 год, радзіліся ў межах земляў, падлегаючых Ураду Цывільнаму Усходніх Земляў, альбо Рэчыпаспалітай Польскай і ў мамэнт увядзеньня ў жыцьцё гэтай Уставы

адказваюць хаця-б аднаму з ніжэй паказаных варункаў:

а) жывуць у межах павету ня меньш аднаго месяца, б) маюць у межах павету нярухомасьць, прадпрыемства, абладжаную кватэру, альбо сталае і акрэсьленае заняцьце (службу, работу).

2. Іншыя асобы абоіх палоў, якія скончылі 21 год і жывуць пастаянна ў межах павету прынамсі ад 1 жніўня 1914 г.

Арт. 8. Сябры паветовага самаўрадавага хаўрусу маюць правы:

1. Карыстацца з прыладаў, інстытуцыяў і маемасьці хайрусу, згодна існуючых аб гэтым правілаў;

2. Прымаць удзел у паветовых выбарах і займаць пасады з выбараў, згодна з існуючымі ўставамі;

3. Карыстаньня ў выпадку патрэбы з апекі хаўрусу з правіламі абавязуючых законаў.

Арт. 9 Сябра паветовага самаўрадавага хаўрусу траціць пасаду з выбараў, калі выявіцца, альбо станець вядомай прычына, якая-б выключала магчымасьць яго выбару. Сябра паветовага самаўрадавага хаўрусу, які займае пасаду з выбараў, спыняецца ў дзейнасьці з маманту, калі распачнецца проці яго судовае сьледзтва ў справе аб праступленьні за дзейнасьць, пазбаўляючую выбарнага права. Спыненьне гэтае наступае праз самы факт расначацьця сьледзтва і трывае ажно да таго мамэнту, калі прыгавор уступіць у законную сілу, альбо справа будзе спынена (umorzona).

(*Працяг будзе.*)



## Ад Рэдакцыі „Беларускага Раднага".

Рэдакцыя журналу прапануе ўсім сябрам Беларускага Камітэту па справам Самаўрадаў прысылаць артыкулы і карэспандэнцыі з самаўрадавага жыцьця. За зьмешчаны ў журнале матэр'ял будзе выплачвацца ганарар. Нязьмешчаны матэр'ял будзе хавацца пры Рэдакцыі і па жаданьню аўтараў зварачвацца. Абвесткі сваіх сябраў адміністрацыя газэты зьмяшчае бязплатна. У ва ўсіх патрэбах Рэдакцыя „Бел. Раднага" ідзе на спатканьне сябрам камітэту па справам Самаўрадаў.

Адрэс: Redakcja „Беларускі Радны". *Wilno, ul. Zawalna, 6 — 4.*

Рэдакцыя і адміністрацыя адчыняны кожны дзень, апрача сьвятачных і нядзельных, ад 11 рана да 3 гадз. дня.





Выдавец — Рэдактар Я. ЯРОШ. Кіраўнік рэдакцыі Г. КАНАПАЦКІ.

Рэдакцыйная колегія: Б. Друцкі-Падбярэскі, Я. Шыбка і Г. Канапацкі.

Druk. J. Ba[illegible] Wilnie, ul. Mostowa 9.